**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 20 (788) 14 траўня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by




У Глыбокім масава адзначылі свята 70-годдзя вялікай Перамогі. *Фота Ул. Скрабатуна.*

**Дзякуй Вам, ветэраны, за мір на нашай зямлі!**



**Падача абвестак па тэлефоне № 166**



ISSN 2077-8023



## Аршанскі раён

# Бераг левы – бераг правы

■ Станіслаў Раманчук.

**Напярэдадні знамянальнай даты – 70-годдзя Вялікай Перамогі паўсюдна на Віцебшчыне праходзілі розныя мерапрыемствы, а самі ўрачыстасці былі хвалюючымі і масавымі.**

У другім па велічыні горадзе вобласці Оршы таксама адбылося шэраг значных падзей. Тут з'явілася абноўленая Дошка гонару, а мясцовы станкабудаўнічы завод за распрацоўку летась 20 сучасных станкоў стаў пераможцам абласнога спаборніцтва па выніках працы ў 2014 годзе. Гараджане пасадзілі новы яблыневы сад, у аршанцаў з'явіўся сёлета вясной 20-ты па ліку горад-пабрацім Ашын з Чэлябінскай вобласці. А найбольш парадавала мясцовых жыхароў адкрыццё пасля рэканструкцыі руху па абноўленым масце праз Днепр. Яго абнаўленне пачалося ў лістападзе амаль два гады назад. За гэты час артэрыя, якая звязвае буйны гарадскі мікрараён з вытворчым раёнам ільнокамбіната, змянілася непараўнальна, набыла прыемны выгляд. На гэтым мосце працягласцю больш 200 метраў з'явіліся новае асфальтавае пакрыццё, патрэбныя металічныя канструкцыі і асобныя праходы для пешаходаў. Тут будзе і сучаснае электраасвятленне, зроблена таксама добраўпарадкаванне прылягаючай тэрыторыі. Пакуль рух праз раку пачаўся ў тэставым рэжыме, а поўнасцю ў эксплуатацыю абноўлены мост будзе здадзены ў пачатку ліпеня, на свята Дня Незалежнасці. Аднак ужо цяпер транспартная нагрузка ў цэнтры горада знізілася на 40 % і аблегчыла жыццё аршанцаў.

## Верхнядзвінскі раён

# Стаўка на маладых

■ Чэслаў Якубовіч.

**Менавіта сёлета ў Год моладзі вырашаць сур'ёзныя задачы ў Беларусі сталі давяраць больш актыўна маладым, амбіцыйным спецыялістам.**

Такой практыкі стаў прытрымлівацца і новы глава вобласці Мікалай Шарстнёў, які павялічыў свой кадравы рэестр на 400 розных пасад. Падчас чарговага "кадравага дня" ў старшыні аблвыканкама ён пасля субяседвання зацвердзіў на пасадзе дырэктарам сельгаспрадпрыемства "Ужыца-агра", што ў Верхнядзвінскім раёне, 28-гадовага мясцовага ўраджэнца Аляксея Гарбуля. На такое рашэнне паўплывала тое, што гэты малады хлопец свядома яшчэ пасля школы вырашыў звязаць свой лёс з працай на зямлі ў родным краі. Юнаком ён скончыў аграрны каледж, потым некалькі гадоў прапрацаваў у райветстанцыі, атрымаў дыплом ветурача і некалькі гадоў узначальваў гэту службу ў саўгасе "Верхнядзвінскі" паблізу райцэнтра. Цяпер яму даверылі кіраваць адной з вядучых гаспадарак раёна, якая адной з першых у Прыдзвінні займела сучасную рабатызаваную малочнатаварную ферму. Веданне добрае тэхналогій вытворчасці і сваіх людзей, практычны вопыт дзейнасці ў сельскай гаспадарцы павінны дапамагчы Аляксею паспяхова справіцца з новымі адказнымі абавязкамі. Падчас гутаркі пры зацвярджэнні на пасаду глава вобласці даў яму і некалькі практычных рэкамендацый, параіў як сістэмна і плённа весці новую справу. Дарэчы, апошнім часам па ўзроўні гаспадарання на зямлі гэты раён стаў адным з лепшых на Віцебшчыне дзякуючы таму, што склаўся зладжаны кадравы патэнцыял з людзей, якія ўмела гаспадараць і ганарацца сваёй малой радзімай.

## Пастаўскі раён

# Дэбютаваў у эліце

■ Кастусь Александровіч

**На працягу дзесяці апошніх гадоў адным з самых футбольных гарадоў краіны і цэнтрам развіцця дзіцяча-юнацкага спорту з'яўляюцца ў Беларусі Паставы.**

Хоць напрыканцы мінулага года кіраўніцтву прыватнага мэблевага цэнтра з-за "прасеўшага" расійскага рынку збыту і ўзнікшых эканамічных цяжкасцей прыйшлося закрыць сваю футбольную акадэмію, але закладзеныя раней традыцыі сталі прыносіць свой плён. У пачатку мая ў асноўным складзе славутага мінскага "Дынама" дэбютаваў выхаванец пастаўскага футбола, малады паўабаронца Аляксандр Кучараў. Тут яшчэ хлапчуком пачаў ён рабіць пад кіраўніцтвам трэнера Васіля Грантоўскага свае першыя крокі да вышынь вялікага спорту. Калі ў 2007 годзе ў райцэнтры праходзілі фінальныя рэспубліканскія спаборніцтвы турніру "Скураны мяч", ужо тады Саша стаў не толькі лепшым бамбардзірам, але і быў лепшым у спаборніцтвах па элементах тэхнікі валодання мячом і фізічнай падрыхтоўцы. Ва ўзросце няпоўных 16 гадоў ён ужо гуляў за дарослую каманду горада ў чэмпіянаце Віцебскай вобласці, а потым быў адным з першых запрошаны і заключыў прафесійны кантракт з праслаўленым сталічным клубам, замацаваўся ў складзе маладзёжнай зборнай Беларусі. Яго прыклад стаў прыцягальным і для іншых мясцовых юнакоў. Зараз маладыя пастаўскія ігракі гуляюць у дубліруючых складах нават знакамітага БАТЭ і іншых клубаў вышэйшай лігі, а ў камандзе рэзервістаў абласнога цэнтра замацаваліся нават восем выхаванцаў футбольнай акадэміі ПМЦ.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 14.05.15 | | | | Пятніца 15.05.15 | | | | Субота 16.05.15 | | | | Нядзеля 17.05.15 | | | | Пан. 18.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +8 | +10 | +13 | +10 | +7 | +9 | +12 | +9 | +4 | +5 | +9 | +8 | +5 | +8 | +9 | +8 | +6 | +8 | +11 |
| Ціск | 741 | 741 | 739 | 739 | 738 | 739 | 739 | 739 | 741 | 742 | 744 | 745 | 745 | 744 | 742 | 742 | 741 | 740 | 737 |
| Вільготнасць | 77 | 73 | 53 | 75 | 86 | 83 | 54 | 75 | 82 | 87 | 65 | 63 | 75 | 69 | 79 | 66 | 75 | 81 | 57 |
| Вецер м/сек | 3 Пд-З | 5 Пд-З | 3 Пд-З | 1 З | 3 З | 5 Пн-З | 3 З | 3 Пд-З | 6 З | 6 Пн-З | 6 Пн-З | 5 З | 3 З | 4 Пд-З | 6 Пд-З | 4 Пд-З | 4 Пд-З | 7 Пд-З | 6 Пд-З |

# Аб самым надзённым

## АДЭКВАТНЫХ СІТУАЦЫІ ІДЭЙ, ПАТРЭБНЫХ СВЕЖЫХ АДКАЗАЎ НА ВОСТРЫЯ ПРАБЛЕМЫ І ЗНЕШНІЯ ВЫКЛІКІ БЕЛАРУСКІЯ ЎЛАДЫ ПАКУЛЬ НЕ ВЫПРАЦАВАЛІ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Дарэчы, і за савецкім часам прадукцыйнасць працы ў нас істотна адставала ад узроўню капіталістычных краін. З той пары ў Беларусі не так і шмат адэкватных змен адбылося і па-сутнасці мы перажываем зараз перыяд пэўнага застою брэжнеўскага пакрою, калі знешне да перабудовы жылося быццам прыстойна.**

Напярэдадні нядаўніх майскіх святаў многія суайчыннікі, напэўна, цікавіліся чарговым двухгадзінным выступленнем беларускага лідара падчас штогадовага звароту главы дзяржавы да народа і Нацыянальнага сходу. Як меркавалася, гэта маглі б быць контуры яго передвыбарнай платформы, бо ўсе бліжэй новыя прэзідэнцкія выбары. Дату іх правядзення павінны прызначыць у сярэдзіне жніўня і нават абяцаюць набыць празрыстыя урны для галасавання. А. Лукашэнка да таго ж многіх заінтрыгаваў, калі прамовіў у пачатку з трыбуны, што сёлета " и Послание будет несколько своеобразным".

Так, сапраўды, кіраўніку краіны прыйшлося прызнаць наяўнасць у Беларусі сур'ёзнага крызісу і адначасова заўважыць, што наша сінявокая маленькая дзяржава па-ранейшым застаецца "островком мира, спокойствия и порядка". Аднак, у чым зыходзяцца зараз большасць спецыялістаў, што хоць і казаліся раз-пораз правільныя рэчы ( называлася 10 тэзісаў), але рэальных новых рэцэптаў і шляхоў па выхадзе з няпростай сітуацыі насельніцтва пакуль не пачула. Праўда, Аляксандр Рыгоравіч паабяцаў, што да канца года будуць прыняты важныя рашэнні, якія дазволяць палепшыць цяперашнюю сітуацыю. А. абстаноўка зараз ад сталіцы да ўскраін, сапраўды, унікальная, бо эканоміка коціцца ўніз.

У Беларусі зараз, на жаль, расце як на дражджах колькасць стратных прадпрыемстваў. Айчынная прадукцыя слаба прадаецца на ўнутраным і знешніх рынках. Упершыню за два апошнія дзесяцігоддзі валавы ўнутраны прадукт можа знізіцца, а рэальная зарплата беларусаў са снежня мінулага года знізілася ўжо на трэць. Аднвчасова адчувальна пачало расці беспрацоўе, толькі за два месяцы (студзень-люты) па афіцыйнай статыстыцы на біржах працы зарэгістравалася яшчэ амаль 12 тысяч чалавек, якія страцілі працу. У рэжыме няпоўнай занятасці працуюць ужо сотні тысяч, а толькі ў Віцебскай вобласці ў красавіку да 519 вырасла колькасць прадпрыемстваў і арганізацый, якія маюць даўгі па выплаце людзям заробкаў.

Прэзідэнт такія цяжкасці звязаў са знешнімі прычынамі, а яшчэ раней пацвердзіў у ходзе паездкі па Слаўгарадскім раёне, што "бездельников заставим работать". У нас цяпер многія гавораць і звязваюць прычыны існуючых праблем з падзеннем сусветных цэн на нафту, эканамічным крызісам у Расіі пасля ўведзеных супраць яе санкцый і абвалу яе нацвалюты. Аднак глава дзяржавы шчыра неўзабаве ўсім сказаў, што ўсе знешнія фактары для Беларусі і не такія ўжо неспрыяльныя. Па ягоным прызнанні, для краіны якраз і нармальная сітуацыя цяпер: "Чего мы ноем, стонем и плачем! У нас что, война сегодня идёт? Я не хочу расчёты приводить, сколько мы экономим только на природном газе в связи с падением цен на нафть!".

На мой погляд, гэта красамоўнае прызнанне, але і сведчанне таго, што сітуацыя ў дзяржаве, дзе ўсё пільна і да дробязей дагэтуль кантралявалася, цяпер выйшла з-пад кантролю. На яе ўжо нельга паўплываць ранейшымі адміністрацыйнымі мерамі і пагрозамі жорстка разабрацца з тымі, хто не будзе выконваць каманд зверху. Ну, і якім чынам можа рэанімараваць зараз, да прыкладу, той жа мадэрнізіраваны МАЗ, які амаль што спыніўся (пра гэта сам А. Лукашэнка выказаўся). Нават калі ратаваць заводгігант загадаюць хоць бы прэм'ер-міністру А. Кабякову, адной з названых прычын росту цэн, то гэта не прывядзе да росквіту флагмана айчыннага машынабудавання.

Увогуле ў апошнім Пасланні было і шэраг правільных думак, што Беларусь спазняецца з абнаўленнем сваёй эканомікі і таму адстае ад найбольш развітых краін ЗША, ЕС, Японіі, Ізраіля, "азіяцкіх тыграў" з іх тэхналогіямі ведаў XXI стагоддзя і адпаведна прасунутых паслуг. А ў нас спачатку прымаюць прагнозы развіцця на пяцігодку, наробяць менш якасных і канкурэнтназдольных тавараў, а потым толькі думаюць пра рынкі збыту, пра што самакрытычна прызнаўся глава дзяржавы. Дарэчы, і за савецкім часам прадукцыйнасць працы ў нас істотна адставала ад узроўню капіталістычных краін. З той пары ў Беларусі не так і шмат адэкватных змен адбылося і па-сутнасці мы перажываем зараз перыяд пэўнага застою брэжнеўскага пакрою, калі знешне да перабудовы жылося быццам прыстойна.

Як падаецца, да канца года сёлета, як паабяцалі, мы пражывём пакуль без асаблівых узрушэнняў. Пастараюцца на нейкі час цэны замарозіць, магчыма знойдуцца да выбараў нейкія грошы на нязначнае павышэнне пенсій і выплат бюджэтнікам. Цэны і тарыфы, што мы ўжо праходзілі, могуць рвануць ужо потым, калі адбудзецца галасаванне. Вось тады і надыдзе пара банкроціць ляжачыя прадпрыемствы, асабліва тады, калі не ажыве расійскі рынак. Пакуль жа беларускі ўрад і Нацбанк ужо пачалі распрацоўку канкрэтнай праграмы для вырашэння гэтых і іншых вострых паўсядзённых пытанняў.

## Дзень за днём

**Спецыялісты Сусветнага банка спрагназавалі эканамічны спад у Беларусі ў 2015-2016 гадах. За першы месяц вясны страцілі працу яшчэ 70 тысяч беларусаў. Нацбанк Беларусі дапусціў па выніках года інфляцыю мінімум 18 %. Беларусь панізіла экспартныя пошліны на нафту і нафтапрадукты. А. Лукашэнка загадаў аднавіць лесапалосы з сасны ўздоўж дарог. За сакавік беспрацоўных беларусаў стала болей на 8,6 %, дагэтуль зімой нашы прадпрыемствы на экспарце ў Расію страцілі 900 млн. долараў. Для маладых беларусаў сёлета цэнтралізаванае тэсціраванне пройдзе з 14 па 27 чэрвеня, упершыню – па кітайскай мове.**

# Важнейшыя навіны свету

**Непал.** Ад моцнага землятрусу магнітудай 7,8 бала пацярпелі 8 млн. жыхароў краіны, загінула звыш 7 тысяч, яшчэ 14 тысяч чалавек былі паранены, шмат разбурана ў сталіцы.

**Германія.** Журналісцкія даследванні шэрагу нямецкіх СМІ знайшлі доказы, што самалёт Боінг быў збіты ў небе над Данецкам расійскім зенітна-ракетным комплексам "Бук".

**Польшча.** Канцлер Германіі А. Меркель пацвердзіла ў Варшаве, што ЕС у чэрвені прадоўжыць свае санкцыі супраць Расіі, пакуль не спыніць Крэмль агрэсію ў Данбасе.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка заявіў, што вайна закончыцца тады, калі украінцы вернуць сабе Данбас і Крым, ніякага кампрамісу ў гэтым накірунку не будзе.

**Францыя.** Еўрапарламент запатрабаваў вызваліць незаконна арыштаваную украінскую лётчыцу Н. Саўчанка і яшчэ некалькіх украінцаў, прыгразіў Расіі новымі санкцыямі.

**Расія.** Камандуючы войскамі Заходняй ваеннай акругі генерал-палкоўнік А. Сідараў аб'явіў, што ЗША і іх саюзнікі пачалі супраць РФ першую фазу гібрыднай вайны.

**Германія.** Галоўнакамандуючы сіламі НАТО ў Еўропе генерал Ф. Брыдлаў абвінавconfigurаціў Расію, што яна камандуе данецкімі баевікамі і нарошчвае там свой ваенны патэнцыял.

**Венесуэла.** Папулісцкі ўрад краіны Н. Мадуры з мэтай нібыта эканоміі энергарэсурсаў кандыцыянераў у спёку скарацій да 5,5 гадзін працоўны дзень для дзяржслужачых.

**Аўстрыя.** Суд Вены адмовіўся выдаць 49-гадовага ўкраінскага алігарха Д. Фірташа ЗША, дзе яго абвінавачваюць у стварэнні міжнароднай карупцыйнай схемы.

**КНДР.** Па абвінавачванні нібыта ў шпіянажы глава краіны Кім Чэн Ын загадаў расстраляць кіраўніка нацыянальнага аркестра "Ынхасу" і яшчэ трох яго музыкантаў.

**Польшча.** МЗС Расіі абурылася, што Сейм краіны заканадаўча перанёс Нацыянальны дзень перамогі на 8 мая замест існаваўшага ў ПНР свята Перамогі і свабоды 9 мая.

**Казахстан.** Сваёй перамогай на выбарах, як заявіў палітолаг Ю. Дракахруст, Назарбаеў паказаў Пуціну, што ўсё кантралюе і тут дзеячаў тыпу "казахстаннаш" не дапусціць.

**Фінляндыя.** Кіраўніцтва кампаніі Nokia пацвердзіла, што яна вернецца ў другой палове года сёлета на рынак сотавай сувязі і адновіць выпуск сучасных смартфонаў.

**Расія.** Канфузам для РФ стаў некантраліруемы зыход з арбіты грузавога касмічнага карабля "Прагрэс М-27М2", гэта ўжо 8-мы апарат, які згарэў у слаях атмасферы.

**Германія.** Родныя і блізкія развітаіся тут з памерлай на 90-м годзе жыцця славутай балерынай М. Плісецкай, згодна завяшчання яе прах развеюць над Расіяй.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Хойнікі.** Жыхароў раёна і яго суседзяў вельмі ўстрывожыла, што буйны лясны пажар паблізу Чарнобыльскай АЭС спынілі толькі ў 5 км ад магільніка радыёнуклідаў.

**Мінск.** Палітолаг А. Фядута заявіў, што, мяркуючы па ўсім, сёлета пачнецца апошні тэрмін знаходжання ў палітыцы А. Лукашэнкі, адзіным гарантам яго бяспекі будзе Захад.

**Гомель.** Яшчэ больш рабочых буйнейшага прадпрыемства горада "Гомсельмаша" сталі адпраўляць у водпускі за свой кошт, заробкі ў многіх з іх упалі на 1,5 млн. рублёў.

**Шклоў.** На сустрэчы з фермерамі вобласці А. Лукашэнка даручыў ураду вырашыць іх праблемы па выкупе арандаваных будынкаў і маёмасці, час уласнасці зямлі наперадзе.

**Мінск.** Вядомы эксперт В. Карбалевіч адзначыў, што ў пасланні народу і парламенту А. Лукашэнка назваў прычыны цяперашняга крызісу, але не даў адказаў на выклікі краіне.

**Магілёў.** На прадпрыемствах вобласці стала болей у 1,8 разы беспрацоўных, чым год назад, найбольш звольнілі ў І-м квартале сёлета ў прамысловасці – 2014 чалавек.

**Мінск.** Пасол Ізраіля ў Беларусі І. Шагал прызнаў, што не спраўдзіліся спадзяванні ад старту праекта ЕАЭС, там сітуацыя ў эканоміцы нестабільная і непрадказальная.

**Маларыта.** За аказаную дапамогу маладой сям'і заліць апалубку пад фундамент узводзімага дома падатковая інспекцыя запатрабавала ад іх родных заплаціць па 3 млн.

**Мінск.** Хоць сярод беларусаў падтрымка анексіі Крыма Расіяй вялікая, але 25,5 % апытаных сацыёлагамі НІСЭПІ, падтрымліваюць тэрытарыяльную цэласнасць Украіны.

**Ждановічы.** Адзін з лідараў прадпрымальніцкага руху А. Талстыка заявіў, што цэны ў Беластоку, Вільні, Варшаве меншыя, чым у нас, бо там створаны нармальныя ўмовы.

**Мінск.** Дастаткова вялай, як заявіў філосаф У. Мацкевіч, будзе сёлета выбарчая кампанія, а ў кіраўніцтва краіны няма праграмы рэформ, якія наспелі ў эканоміцы, арміі, адукацыі.

**Асіповічы.** Праз 5 дзён пасля свайго 40-годдзя падарваўся на расцяжцы і загінуў ураджэнец горада Сяргей Сцебіхаў, які ваяваў добраахвотнікам на баку баевікоў "ДНР".

**Мінск.** У пагрозу для ўсяго свету, як заявіла пісьменніца С. Алексіевіч, пераўтварылася Расія, яна звар'яцела, бо ў рускіх няма культуры жыцця, ёсць культура вайны.

**Гомель.** Паблізу аграгарадка Бабовічы ноччу на беларускім участку магістральнага нафтаправода "Дружба" адбылася аварыя, нафта вылілася на плошчы 0,06 гектара.

**Мінск.** Самы багаты алігарх краіны Ю. Чыж зноў прадэманстраваў свой "круты" нораў і адправіў у адстаўку 29-га па ліку галоўнага трэнера ФК "Дынама" за апошнія 14 гадоў.

## Пытанні мадэрнізацыі прадпрыемстваў Віцебскай вобласці будуць разглядацца індывідуальна і пакрокава




■ Кацярына Князева – БелТА

**Пытанні мадэрнізацыі прадпрыемстваў Віцебскай вобласці будуць разглядацца ў індывідуальным парадку і пакрокава. Пра гэта заявіў сёння старшыня Віцебскага аблвыканкама Мікалай Шарстнёў падчас сустрэчы з прадстаўнікамі СМІ рэгіёну, перадае карэспандэнт БелТА.**

Любая мадэрнізацыя павінна прыводзіць да максімальнага поспеху, упэўнены Мікалай Шарстнёў. І ўспомніў Аршанскі льнокамбінат. «Мадэрнізацыя вядзецца ўжо некалькі гадоў. Першая чарга скончана, другая на падыходзе. Неабходна каля 70 млн еўра інвестыцый. Але што мы будзем мець на выхадзе? Любая мадэрнізацыя павінна даваць павелічэнне аб'ёму выпраблёнай прадукцыі, зніжэнне сабекошту, памяншэнне колькасці працуючых. Але павелічэння льнопераправоўкі на камбінаце не адбылося. Пасля другой чаргі застанецца, як і цяпер, 4,1 тыс. чалавек, павелічэння аб'ёму прадукцыі не назіраецца. Я лічу, што мы толькі асучаснілі вытворчасць, не больш», - адзначыў ён. Пры разглядзе перспектыў развіцця прамысловасці кожны крок павінен абмяркоўвацца настолькі, каб выключыць усе праблемы, якія могуць усплыць па ходзе, неабходна дамагацца максімальнага эфекту ў самыя кароткія тэрміны, заключыў Мікалай Шарстнёў.

Прамысловасць фарміруе больш за палову даходнай часткі бюджэту. Але аснову сферы складае нафтахімія, і калі яе выключыць, то сітуацыя складваецца не лепшым чынам. Таму кіраўніцтвам вобласці прапрацоўваюцца канкрэтныя механізмы падтрымкі прадпрыемстваў, як гэта было зроблена раней у сферы АПК. На думку Мікалая Шарстнёва, прамысловасць больш уразлівая, чым сельская гаспадарка, і залежыць ад знешніх фактараў. У аснове сваёй яна экспартна арыентаваная. У перыяд змены рынкаў не варта працаваць на склад.

Кіраўнік вобласці адзначыў, што ў цяжкім стане знаходзіцца будаўнічая галіна. «Трэба шмат будаваць, асабліва ў сістэме АПК. У нас няма, як у іншых рэгіёнах, дастатковай колькасці сучасных жывёлагадоўчых комплексаў, свінакомплексаў. Каб актывізаваць будаўніцтва, патрэбныя фінансы. Для гэтага мы і развіваем сяло - каб заказчык быў плацежаздольным», - растлумачыў ён.

У час сустрэчы ў аблвыканкаме пасля ўрачыстай часткі кіраўнік Віцебшчыны адказаў на пытанні журналістаў па ключавых тэмах, якія хвалююць аўдыторыю сродкаў масавай інфармацыі. Таксама былі ўручаны прэміі абласнога конкурсу друкаваных СМІ імя Ф.Скарыны і электронных – «Віцязь».

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На тэрыторыі вобласці ўжо больш 80 % існуючых мастоў патрабуюць абнаўлення, не хапае сродкаў і на тэрміновы рамонт 175 кіламетраў рэспубліканскіх дарог.

**Дуброўна.** Мясцовы льнозавод, адзіны ў вобласці летась атрымаў 1 мільярд рублёў прыбытку, астатнія заводы ўсе сталі стратнымі, іх страты за год дасягнулі 50 мільярдаў.

**Лёзна.** Абласны Камітэт дзяржкаўнага кантролю выявіў, што 4 гаспадаркі раёна прадставілі лжывую дзяржсправаздачу аб быццам "выплатах" заробкаў на 1,3 мільярда рублёў.

**Віцебск.** Пасля атрымання сертыфіката ЕС станкабудаўнічы завод "Візас" упершыню падпісаў кантракт на пастаўкі сваіх універсальных заточных станкоў у Польшчу.

**Полацк.** На працягу трох дзён падчас акцыі "Аўтобус Перамогі" спецыяльна ўпрыгожаны транспарт з ветэранамі вайны і працы наведаў 110 памятных мясцін раёна.

**Расоны.** У рамках міжнароднай акцыі да свята Перамогі прадстаўнікі Себежскага раёна (Расія) перадалі мясцоваму музею на захоўванне копію сцяга, узнятага над Рэйхстагам.

**Талачын.** Да 70-годдзя Вялікай Перамогі ў раённым цэнтры адкрылі мемарыяльную дошку земляку, наводчыку танка Андрэю Усаву, які толькі ў адным баі падбіў 22 варожыя танкі.

**Браслаў.** З візітам дружбы раён зноў наведала дэлегацыя Легіянаўскага павета (Польшча), згадзілася прысылаць творчы калектыў на прадстаячы фестываль "Браслаўскія зарніцы".

**Шаркаўшчына.** У раённым адкрылі помнік праваслаўнаму святару К. Жданаву, якога ў 1919 годзе замучылі да смерці бальшавікі, ён узвёў тут царкву, прылічаны да святых.

**Лепель.** Пад раніцу на трасе Мінск-Віцебск ля вёскі Бароўка 25-гадовы вадзіцель фуры збіў насмерць маладзейшага на год пешахода, які ішоў па правым баку дарогі.

**Глыбокае.** Следчы камітэт распачаў справу супраць 29-гадовага занадта раўнівага мужа, які нажом забіў сваю 24-гадовую жонку, пакінуў сіротамі дваіх малых дзяцей.

**Дуброўна.** У тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання адкрылася аддзяленне дзённага знаходжання для пажылых, 29 пенсіянераў сталі вучыцца працы на камп'ютары.

**Паставы.** Свой першы канцэрт у Палацы культуры даў вакальна-інструментальны ансамбль "Музей" пад кіраўніцтвам Юрыя Беліка, створаны пры духавым аркестры.

**Віцебск.** У мясцовым тэхналагічным універсітэце прайшла 48-я міжнародная навукова-тэхнічная канферэнцыя з нагоды 50-годдзя ВНУ, уручылі прэміі маладым вучоным.

**Гарадок.** На базе абласнога цэнтра алімпійскага рэзерву па зімовых відах спорту запланавалі ўзвесці яшчэ стралковы цір, трэнажорную залу для лыжнікаў, Лядовы палац.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Заказнік – не, пад ахову – так!

■ **Уладзімір Скрабатун**

**У нашай газеце [№ 15 (783)] ад 9 красавіка 2015 года быў апублікаваны матэрыял “Зробім запаведнік у цэнтры Глыбокага?”**

**У гэтым матэрыяле паведамлялася аб месцы вырастання ў балоце, што побач з шашой Полацк-Вільня, бярозы нізкай альбо прысадзістай.**

**Бяроза нізкая альбо прысадзістая, як рэдкі від, занесеная ў Чырвоную Кнігу Рэспублікі Беларусь. Гэта значыць, што бяроза нізкая знаходзіцца пад аховай нашай дзяржавы як рэдкі альбо знікаючы від.**

Аўтар гэтага матэрыяла прапаноўваў зрабіць у гэтым месцы заказнік. Газетны артыкул у электронным выглядзе, апроч таго, быў накіраваны ў Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь (Мінпрыроды).

МІНІСТЭРСТВА ПРЫРОДНЫХ РЭСУРСАЎ І АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ МІНПРЫРОДЫ

вул. Калектарная, 10, 220004, г. Мінск
тэл. (37517) 200-66-91; факс (37517) 200-55-83
E-mail: minproos@mail.belpak.by
р/р № 3604900000111 ААБ «Беларусбанк»
г. Мінск, код 795, УНП 100519825; АКПА 00012782

МИНИСТЕРСТВО ПРИРОДНЫХ РЕСУРСОВ И ОХРАНЫ ОКРУЖАЮЩЕЙ СРЕДЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ МИНПРИРОДЫ

ул. Коллекторная, 10, 220004, г. Минск
тел. (37517) 200-66-91; факс (37517) 200-55-83
E-mail: minproos@mail.belpak.by
р/с № 3604900000111 АСБ «Беларусбанк»
г. Минск, код 795, УНН 100519825; ОКПО 00012782

07.05.2015 № 1-2-1/10-1/С-152-2

Скрабатун У.
vglybokaye@rambler.ru

Аб накіраванні адказу

Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь (далей – Мінпрыроды) сумесна з Дзяржаўнай навуковай установай «Інстытут эксперыментальнай батанікі імя В.Ф.Купрэвіча НАН Беларусі» разгледзела Ваш электронны зварот і інфармуе, што ў адпаведнасці з Нацыянальнай стратэгіяй развіцця сістэмы асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторый Рэспублікі Беларусь да 1 студзеня 2030 года, зацверджанай пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 2 ліпеня 2014 г. №649, адным з крытэрыяў для аб'явы прыроднай тэрыторыі заказнікам з'яўляецца наяўнасць месцаў пражывання і (або) вырастання 10 і больш відаў дзікіх жывёл і дзікарослых раслін, уключаных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь. Такім чынам, на ўтварэнне заказніка ў мэтах аховы аднаго віда няма падставы.

Таксама паведамляем, што Мінпрыроды будуць прыняты меры па абследаванні названай у звароце тэрыторыі на прадмет наяўнасці месца вырастання бярозы нізкай або прысадзістай і, у выпадку выяўлення – па арганізацыі аховы месца вырастання гэтай дзікарослай расліны, уключанай у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь.

Мінпрыроды выказвае Вам падзяку за неабыякавае стаўленне да пытанняў аховы навакольнага асяроддзя, у прыватнасці, да захавання рэдкіх відаў дзікарослых раслін.

Намеснік Міністра С.С.Хрушчоў

10 Грыпчык 200 52 63
07.05.2015 г. D лісты

Зразумела, можна напісаць артыкул, прапанаваць узяць пад ахову дзяржавы пэўны прыродны аб'ект, але сама сабой гэтая справа не зробіцца, трэба каб і Мінпрыроды, як кажуць у народзе – “было ў курсе”.

Сваё зацікаўленне выказаў аўтару і Аляксей Віктаравіч Протас, начальнік інспекцыі па ахове жывёльнага і раслiннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь: “Пайду неўзабаве да сп. А.В. Морхата, будзем вырашаць, што з гэтым месцам можна зрабіць?”

Мінпрыроды адрэагавала, даслаўшы аўтару ліст за подпісам намесніка міністра С.С. Хрушчова.

Па праўдзе кажучы, не ведаў, што для стварэння заказніка патрэбна як мінімум 10 відаў чырвонакніжных раслінаў, якія б раслі ў адным месцы. Каб ведаў, то можа і “накапаў” бы чаго на 10 відаў. Не сумняваюся, што ў гэтым месцы расце штосьці з чырвонакніжнікаў, напрыклад, дзікая архідэя.

Мінпрыроды абяцае даследаваць месца вырастання бярозы нізкай альбо прысадзістай, і ў выпадку выяўлення гэтай дзікарослай расліны, будзе арганізавана ахова вышэйзгаданага месца.

Можна сказаць, што яшчэ адным помнікам Глыбокае прырасце, гэта значыць помнікам прыроды.

Ятрышнік плямісты – дзікая архідэя.

Бяроза нізкая альбо прысадзістая

# Лучай запрашае на фэст

Лучайская парафія сардэчна запрашае на фэст у гонар святога Андрэя Баболі, апекуна Палесся і Беларусі. Свята адбудзецца 16 мая. Пачатак у 15:00. Праграма свята будзе дададзена на сайце luchai.by

**Праграма на 16 мая:**

**15:00** - адарацыя Найсвяцейшага сакрамэнта

**15:30** - урачыстая святая Імша с удзелам супольнасці беларускіх чыгуначнікаў

**17:00** - адкрыццё парафіяльнага музея

**17:30** - святочны канцэрт з удзелам: каталіцкага гурта “Laudans”, артыстаў Шаркаўшчынскага РДК, беларускай спявачкі Валянціны Альшанскай і акардаяніста-віртуоза Дзмітрыя Корсака.

***Усіх сардэчна запрашаем на свята!***

# За тыдзень полацкія памежнікі затрымалі на мяжы Латвіі 17 замежнікаў

**17 замежных грамадзян былі затрыманыя памежнікамі Полацкага памежнага атрада ў Браслаўскім і Верхнядзвінскім раёнах.**

Уначы 4 траўня ў памежнай зоне ў Браслаўскім раёне полацкія памежнікі затрымалі 9 чалавек. Падчас праверкі высвятлілася, што 7 з іх — грамадзяне В'етнама, 2 — Таджыкістана, якіх суправаджалі два выхадцы з Дагестана. Стала вядома, што ўсе яны прыбылі ў памежную зону на двух аўтамабілях, зарэгістраваных у Расіі. Двое в'етнамцаў пры сабе не мелі пашпартоў.

Праз два дні — 6 траўня — у Верхнядзвінскім раёне памежнікам ад мясцовых жыхароў паступіла інфармацыя пра знаходжанне ў памежнай зоне яшчэ адной групы людзей, падобных на азіятаў. Падчас праверкі атрыманай інфармацыі былі затрыманыя 6 грамадзян В'етнама, у 3 з іх адсутнічалі дакументы.

Ва ўсіх выпадках замежныя грамадзяне намерваліся парушыць беларускалатвійскую мяжу з мэтай пошуку лепшых умоў жыцця ў краінах Еўрасаюза, паведамляе прэс-служба Дзяржпамежкамітэту.

У наш час з в'етнамцамі праводзіцца разбіральніцтва. Ім пагражае прыцягненне да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне дзяржаўнай мяжы, а таксама правілаў знаходжання ў Беларусі ў выглядзе штрафу з наступнай дэпартацыяй.

Грамадзяне Расіі і Таджыкістана афармлены парушальнікамі памежнага рэжыму. Яны будуць дэпартаваны з краіны з забаронай уезду ў Беларусь тэрмінам на 5 гадоў.

# У васьмі гарадах Беларусі адкрыюцца польскія візавыя цэнтры

**У іх будуць знаходзіцца 42 вакны для прыёму дакументаў на візы.**

Візавыя цэнтры Польшчы адкрыюцца ў Мінску, Брэсце, Гродне, Гомелі, Магілёве, Пінску, Баранавічах і Лідзе. У іх павінна знаходзіцца прынамсі 42 вакны для прыёму дакументаў на візы і 20 месцаў для збору біяметрычных дадзеных заяўніка. З 23 чэрвеня беларусы для атрымання шэнгенскай візы павінны будуць падаць біяметрычныя дадзеныя – адбіткі ўсіх пальцаў рук і лічбавую фатаграфію. Паводле ўмоў тэндара ў візавых цэнтрах павінна быць неабходнае для гэтага абсталяванне. Заяўкі на ўдзел у тэндары будуць прымацца па 10 чэрвеня, перадае БелТА.

Мяркуецца, што цэнтры змогуць штогод прымаць 290 тыс. хадайніцтваў на атрыманне віз, у тым ліку цэнтр у Мінску – 80 тыс. Заяўкі можна будзе падаваць з панядзелка па пятніцу (акрамя дзяржаўных свят) з 9.00 да 17.00. Рашэнне пра выдачу візы будзе прымацца на працягу дзесяці працоўных дзён. Пры неабходнасці разгляд дакументаў можа быць падоўжаны да 30 дзён.

***Паводле БелТА.***

# Віцебскія мытнікі спынілі спробу ўвозу баявога танка Т-34

**Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Дзяржаўнага мытнага камітэта, у рэспубліканскі пункт мытнага афармлення “Урбаны” Віцебскай мытні на мяжы з Латвіяй прыбыў грузавы аўтамабіль Iveco з паўпрычэпам, у якім перамяшчаўся ў якасці тавару танк Т-34-85 1945 года выпуску.**

Вадзіцель фуры прапанаваў да мытнага афармлення груз, а таксама суправаджальныя і іншыя дакументы. Як удакладнілі ў ДМК, танк перавозіўся ў Расійскую Федэрацыю.

Пры правядзенні праверачных мерапрыемстваў па факце законнасці ўвозу на тэрыторыю Мытнага саюза танка Т-34 супрацоўнікамі аддзела па барацьбе з кантрабандай Віцебскай мытні з прыцягненнем спецыялістаў Міністэрства абароны была праведзеная ідэнтыфікацыя тавару. “Устаноўлена, што вышэйзгаданы танк Т-34 адносіцца да прадукцыі ваеннага прызначэння. Танк Т-34-85 1945 года выпуску папярэднім ацэначным коштам 636,4 млн. беларускіх рублёў затрыманы. Мытняй распачаты адміністрацыйны працэс”, — паведамляе ДМК.

Усяго за студзень-сакавік 2015 года мытнымі органамі канфіскаваны 26 адзінак агнястрэльнай, траўматычнай і халоднай зброі, а таксама боепрыпасаў.

***Аляксей Арэшка, БелаПАН.***

# Беларусы ў красавіку здалі рэкордны аб'ём валюты

**Грошы скончыліся. Беларусы ў красавіку здалі рэкордны аб'ём валюты**

**Трэці месяц беларусы застаюцца чыстымі прадаўцамі наяўнай валюты, павялічваючы аб'ёмы рэшты.**

Па дадзеных Нацбанка, у красавіку беларусы прадалі наяўнай валюты на 269,9 млн даляраў больш, чым купілі, перакрыўшы сакавіцкі рэкорд (243,8 млн). Валюту грамадзяне здаюць на фоне зніжэння рэальнай зарплаты і росту ліку працоўных у рэжыме няпоўнай занятасці.

Па дадзеных Нацбанка, у красавіку грамадзяне зменшылі куплю наяўнай валюты на 10,4% у параўнанні з лютым да 372,4 млн даляраў. Пасля ажыятажнага снежня, калі грамадзяне павыкуплялі 892,8 млн даляраў гатоўкай, аб'ёмы куплі рэзка зваліліся.

Эксперты адзначаюць, што пасля валютнага ажыятажу канца 2014-го гады і паступовага адпушчэння курсу рубля рэальныя прыбыткі насельніцтва зваліліся. Рэальная зарплата, гэта значыць зарплата, разлічаная з улікам росту спажывецкіх коштаў на тавары і паслугі, у студзені-сакавіку паменшылася на 3,1% да аналагічнага перыяду мінулага года.

З улікам безнаяўнага продажу валюты насельніцтва таксама застаецца чыстым прадаўцом. У студзені-красавіку грамадзяне прадалі 2,337 млрд даляраў, купілі – 1,807 млрд.

Сальда куплі-продажы валюты беларускімі суб'ектамі гаспадарання за чатыры месяцы апынулася таксама адмоўным. Рэзідэнты купілі 5,852 млрд даляраў, прадалі – 6,025 млрд.

***tut.by***

# Юбілей касцёла ў Дзеркаўшчыне

**У нядзелю 10 траўня ў вёсцы Дзеркаўшчына Глыбоцкага раёна адсвяткавалі 25-гадовы юбілей аднаўлення касцёла.**

**■ Зміцер Лупач**

На свята сабралася шмат вернікаў як з самой парафіі, так і гасцей з Глыбокага і суседніх населеных пунктаў, прысутнічалі прадстаўнікі раённай і мясцовай улады, святары, якія ў свой час служылі ў гэтай парафіі. Святкаванне ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч, якога ўрачыста сустракалі перад уваходам у касцёл.

Ён удзяліў сакрамант канфірмацыі, або бежмавання, некалькі дзясяткам вернікаў. У сваім слове ён заклікаў моладзь берагчы веру, перадаць яе сваім нашчадкам, так як гэта зрабілі нашы продкі. "Дваццаціпяцігадовы юбілей святыні – гэта не кропка і нават не коска, гэта працяжнік у будучыню", – адзначыў іерарх. Ён падкрэсліў, што гэта намоленае месца, дзе амаль два стагоддзі маліліся нашы продкі, і задача сённяшніх вернікаў ахаваць гэты храм і саму веру для наступных пакаленняў.

Старшыня Глыбоцкага райвыканкама Алег Морхат таксама выступіў на святкаванні. У сваёй прамове ён падзякаваў пробашчу касцёла ксяндзу Андрэю Куліку і біскупу Алегу Буткевічу за запрашэнне і добрую арганізацыю свята. Ад раённай улады ён уручыў дзеркаўшчынскай парафіі сертыфікат на дзесяць мільёнаў рублёў. "Можа гэта і невялікая сума, але гэта ад шчырага сэрца, – падкрэсліў ён.

Таксама ён звярнуўся і да жыхароў Дзеркаўшчыны са словамі прабачэння за тое, што частка дарогі да вёскі знаходзіцца ў дрэнным стане. "Улада пра гэта ведае, але не на ўсё хапае сродкаў," – адзначыў кіраўнік раёна. Ён заклікаў жыхароў з разуменнем ставіцца да гэтай праблемы і самім лепш працаваць, тады ў бюджэце будуць сродкі і на рамонт дарогі.

Пасля святочнай Імшы адбыўся канцэрт каля касцёла, дзе выступілі самадзейныя артысты з Карабоў, а таксама гурт "Рэха" з Мінска. Гледзячы на рэакцыю гледачоў, канцэрт ім спадабаўся. Прыемна было і тое, што песні гурта гучалі выключна на беларускай мове. Канцэрту паспрыяла і надвор'е, якое ў гэты дзень было проста выдатным.

Як адзначыў саліст гурта Андрусь Такінданг, музыкі любяць падарожнічаць па Беларусі і, калі іх будуць запрашаць, яшчэ не раз наведаюць Глыбоччыну. Да гэтага гурт ужо некалькі разоў выступаў у Лучаі і Германавічах.

Хацелася б коратка нагадаць гісторыю касцёла ў Дзеркаўшчыне. Касцёл быў пабудаваны дзякуючы фундатару Лявону Дамейку ў пачатку XIX стагоддзя. Тады царскія ўлады забаранялі будаваць касцёлы, і Дамейка гэты будаваў як свіран для збожжа. Потым яго ўдалося асвяціць у 1822 годзе, у апошнія гады царавання Аляксандра І, калі ў Расійскай імперыі была пэўная лібералізацыя. Пры Мікалаі І гэта было б ужо немагчыма.

Касцёл перажыў на сваім вяку некалькі зменаў уладаў, але савецкая аказалася для яго трагічнай. Пасля смерці ксяндза Макшэцкага мясцовыя ўлады закрылі касцёл. Адбылося гэта ў 1959 годзе, якраз у часы найбольш ваяўнічага атэізму. Пра той час распавядае жыхарка вёскі Дзеркаўшчына Станіслава Мяховіч: "Людзі вартавалі касцёл, баяліся, што забяруць, але прыехалі аднойчы прадстаўнікі выканкама і забралі святыню. Нічога нельга было зрабіць. У плябаніі зрабілі школу, а ў касцёл пачалі ссыпаць збожжа. Арган разбілі. Такі цудоўны быў арган!"

Вось так па злой іроніі лёсу ў касцёл, які напачатку будаваўся як свіран, сталі сыпаць збожжа. Потым і гэта аказалася непатрэбным, і храм пакінулі на волю лёсу і часу, якія паступова сталі ператвараць яго ў руіны. Абваліўся дах, сталі разбурацца сцены і калоны. Вядома ж, не абышлося тут і без чалавека. Студэнты, што прыязджалі ў калгас на лён і бульбу, займаліся непатрэбствам там, дзе раней маліліся людзі.

У такім стане касцёл прастаяў да 1989 года, калі ўлады, уступаючы шматлікім просьбам і зваротам вернікаў, вярнулі яго парафіянам. Касцёл адбудавалі за год. Гэта была вельмі вялікая праца, бо напачатку трэба было прыбраць горы смецця вакол будынка і ўнутры яго, павысякаць кусты, якімі храм паспеў зарасці. А яшчэ ў той час быў вялікі дэфіцыт будаўнічых матэрыялаў, ды і вопыту адпаведнага ў будаўнікоў тады яшчэ не хапала. Але быў вялікі энтузіязм людзей, было вялікае жаданне аднавіць святыню.

Успамінае цяперашні старшыня парафіяльнай рады Уладзімір Фярковіч: "Людзі складалі вялікія ахвяры: па сто савецкіх рублёў. Зарплата тады ў некаторых была толькі па 70 рублёў. Не хапала матэрыялаў, было цяжка з грашыма, але затое людзі паставіліся да справы рупліва. Я сам разам са сваякамі крыў бляхай дах. Прайшло 25 гадоў з таго часу, а касцёл не працякае. Рабілі паводле сумлення."

Для адноўленага храма людзі не шкадавалі ні сродкаў, ні часу. Спадар Фярковіч паказвае: "Вось гэтую жырандолю зафундавала для касцёла Гунэфа Ермаковіч. Прадала карову і ахвяравала грошы. А вунь там стаіць фігура Найсвяцейшай Панны Марыі. Гэта Зосіна фігура. Яе зафундавала Зося Сарока. Харугвы шылі ў Вільні. Аж тры разы даводзілася туды ездзіць".

І вось дзякуючы намаганням вернікаў на чале з тагачасным пробашчам Уладзіславам Завальнюком святыня была адноўлена. 9 траўня 1990 года яе паўторна асвяціў біскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

Хацелася б адзначыць яшчэ адну дэталь: у тых, хто не пашкадаваў грошай на святыню, яны не прапалі, а хто ж і далей захоўваў іх на ашчадных кніжках, праз пару гадоў іх страціў.

Будзем спадзявацца, што сумная старонка ў гісторыі дзеркаўшчынскага касцёла ўжо больш ніколі не паўторыцца і святыня будзе і надалей служыць Богу і людзям.




Дзеркаўшчынскі касцёл у нашыя дні.





Выступ гурта «Рэха».



Так выглядаў касцёл у Дзеркаўшчыне ў 1989 годзе.

## За бяспеку разам

Для павышэння ўзроўню бяспекі насельніцтва, актывізацыі пажарна-прафілактычнай работы, аналізу яе эфектыўнасці і ацэнкі гатоўнасці тэрыторый да вясенне-летняга пажаранебяспечнага перыяду з 20 красавіка па 20 траўня 2015 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна праводзіцца рэспубліканская акцыя па папярэджанні пажараў і гібелі людзей ад іх ў жыллёвым фондзе.

Мэтай акцыі з'яўляецца: зніжэнне колькасці пажараў, якія адбываюцца па прычыне невыканання грамадзянамі правілаў пажарнай бяспекі ў жылых будынках і збудаваннях, павышэнне інфармаванасці насельніцтва аб магчымасцях дзяржаўных арганізацый па аказанні паслуг па забеспячэнні іх бяспекі, умацаванне правапарадку, папярэджанне правапарушэнняў, якія ўчыняюцца грамадзянамі, якія знаходзяцца ў стане алкагольнага ап'янення. У ходзе акцыі работнікі МНС:

■ наведаюць па месцы жыхарства адзінокіх і адзінока пражываючых састарэлых грамадзян і інвалідаў, сем'і, у якіх дзеці знаходзяцца ў сацыяльна-небяспечным становішчы;

■ дадуць тлумачэнні і рэкамендацыі грамадзянам па павышэнні ўзроўню пажарнай бяспекі жылля;

■ правядуць сумесныя рэйды па праверцы супрацьпажарнага стану месцаў агульнага карыстання ў шматкватэрных жылых дамах;

■ ажыццявяць маніторынг стану крыніц супрацьпажарнага водазабеспячэння;

■ выступяць у працоўных калектывах па пытаннях выканання правілаў пажарнай бяспекі;

■ рэалізуюць комплекс іншых мерапрыемстваў, на зніжэнне колькасці пажараў і гібелі на іх людзей.

*Інспекцыя нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага РАНС*

# Абыякавасць людзей да браканьераў здзіўляе

**Травень - апошні месяц вясны, цёпла і сонечна, прырода змянілася, ажыла, расквітнела. У выходныя, святочныя дні народ масава пацягнуўся на адпачынак у лес, на возера, на прыроду - і гэта самыя «гарачыя» дні для работнікаў Глыбоцкай міжраённай інспекцыі. Бо не сакрэт, што культура нашых грамадзян яшчэ далёкая ад нармальнага чалавечага разумення.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Пасля адпачынку грамадзян заўсёды знойдзеш кінутае смецце, непагашаныя вогнішчы, пустыя бутэлькі, нармальнай з'явай становіцца мыйка аўтатранспарту каля вадаёмаў, здабыча рыбы сеткамі. Але, у асноўным усе парушэнні грамадзянамі ігнаруюцца, няма рэакцыі на іх учыненне, поўная абыякавасць, максімум, што могуць сказаць: а вось, я ўчора бачыў, як лавілі рыбу сеткай або кінулі смецце, але інспектараў не было.

Наведваючы вадаёмы, інспектары пастаянна сутыкаюцца з рыбакамі, што жадаюць закінуць дзве-тры вуды ў перыяд вясновай забароны, ведаючы, што гэта забаронена і штраф за, здавалася б, дробнае парушэнне прадугледжаны ад 3,6 млн. рублёў да 9 млн. рублёў, але ўсё роўна такія рыбачкі ёсць. А вось прыбраць смецце пасля сябе альбо пакінутае на беразе папярэднім рыбаком - гэтага няма, лепш буду сядзець у лайне з дзвюма вудамі, але прыбіраць не буду.

**Увага, рыбаловы, п.98 Правілаў рыбалоўства абвяшчае:**

**– рыбаловы, якія ажыццяўляюць рыбалоўства, абавязаны – падтрымліваць належны санітарны стан рыбалоўных угоддзяў, не пакідаць на іх берагах, а таксама на лёдзе смецце і іншыя адходы, не дапускаць засмечвання і забруджвання рыбалоўных угоддзяў іншым чынам;**

**– гэта значыць, што месца лоўлі рыбы павінна быць прыбраным ад смецця незалежна ад таго, хто яго пакінуў, вінаваты будзе той, хто ловіць рыбу.**

Субота, выходны дзень, на ўсіх вадаёмах поўна рыбакоў, але рэакцыя на факты яўнага браканьерства ўсюды аднолькавая – ніякай рэакцыі, мая хата з краю.

8 траўня 2015 года каля 19 гадзін супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі ажыццяўлялі рэйдавыя мерапрыемствы на вадасховішчы Азярцы Глыбоцкага раёна. Рыбакоў было вельмі шмат, але ні адзін з іх не паведаміў у інспекцыю аб тым, што двое грамадзян усталёўваюць сеткі. Інспектары самі выявілі і затрымалі парушальнікаў, дваіх жыхароў г. Наваполацка. Зусім недалёка ад парушальнікаў знаходзіліся чалавек шэсць рыбакоў, але усе моўчкі назіралі, як мужчыны расцягнулі сетку. Суд Глыбоцкага раёна вырашыць лёс прыезджых сетачнікаў.

9 траўня супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі, знаходзячыся ў прыродаахоўным рэйдзе каля сямі гадзін раніцы паблізу в. Свідна Пастаўскага раёна затрымалі мясцовага жыхара грамадзяніна К., які з дапамогай сеткі ажыццяўляў здабычу рыбы на вадасховішчы Свідна. Характэрна, што рыбакоў у гэты час на вадаёме было шмат, але ні адзін не адрэагаваў на браканьерства. Парушальніка чакае штраф і пакрыццё шкоды за незаконна вылаўленых 10 карасёў, гэта як мінімум 9 млн. рублёў. Затрыманы нідзе не працуе, але ісці на працу ў мясцовую гаспадарку не хоча, мала плацяць, лепш буду сядзець дома, а вось гэта ўжо дармаедства.

У ноч з 4 на 5 траўня каля 22 гадзін інспектары затрымалі яшчэ аднаго парушальніка прыродаахоўнага заканадаўства, але ўжо паблізу в. Гроды Пастаўскага раёна. Жыхар Пастаўскага раёна, Іван, назавем яго так, вырашыў паесці свежай рыбкі. Узяўшы сетку, якая захоўвалася (на ўсялякі выпадак) у хляве, ён паехаў на возеры Янкішкі, дзе ўсталяваў сетку і здабыў 49 асобін розных відаў рыбы, але дадому прыехаў не хутка, яго затрымалі інспектары. Шкода, прычыненая незаконнымі дзеяннямі парушальніка, склала больш за 40 млн. рублёў.

Пастаўскім РАУС вырашаецца пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы па ч.2 арт.281 КК Рэспублікі Беларусь. Гэта толькі два дні працы інспектараў па ахове нашай прыроды. На жаль, парушальнікаў і браканьераў менш не становіцца, а абыякавасць людзей да браканьераў здзіўляе. Абодва парушальнікі былі затрыманыя днём, калі на беразе рэк знаходзіўся не адзін дзясятак рыбакоў з вудамі, але ніхто не спыніў парушальнікаў. Шмат хто жыве па прынцыпе: мая хата з краю, няхай іншыя ахоўваюць, а я толькі буду карыстацца дарамі прыроды.

**Аб усіх вядомых фактах парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць па тэлефонах: 8- 02156 - 2-86-70 - кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78, МТС.**



## Налавіў рыбы на 239,42 базавых велічынь

3 траўня 2015 года на тэлефон даверу паступіла інфармацыя аб незаконным рыбалоўстве на возеры Янкішкі Пастаўскага р-на (фонд запасу). 4 траўня для праверкі інфармацыі была накіравана група Глыбоцкай міжраённай інспекцыі. Паблізу в. Гроды на возеры Янкішкі Пастаўскага раёна, жыхар Пастаўскага раёна ажыццяўляў незаконную здабычу рыбы ў забаронены час, забароненай прыладай рыбалоўства, лёсачнай сеткай даўжынёй 115 м. Пры гэтым здабыта: 39 асобін карася срэбнага, 4 асобіны ляшча , 3 асобіны ліня, 3 асобіны шчупака звычайнага. Шкода, прычыненая навакольнаму асяроддзю, склала 42 120 000 руб. і кошт незаконна здабытай прадукцыі склаў 975.600 рублёў , што складае 239,42 базавых велічынь. На месца выклікалася следча-аператыўная група Пастаўскага РАУС, вырашаецца пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы па ч.2 арт.281 КК Рэспублікі Беларусь. Сетка і рыба агульнай вагой 17 кг канфіскаваныя.

## Лавіць рыбу ў зоне праходжання паветраных ліній электраперадачы – небяспечна для жыцця!

**Як гэта не сумна, але сярод насельніцтва працягваюць адбывацца няшчасныя выпадкі пры лоўлі рыбы на вадаёмах, якія знаходзяцца паблізу паветраных ліній электраперадачы.**

■ **А.С. Крывёнак,**
*дзяржаўны інспектар па энергетычнаму нагляду*

Невыкананне элементарных правілаў электрабяспекі прыводзіць да траўмаў рознай ступені цяжкасці.

Сучасныя вудзільны, даўжыня якіх складае больш за 5 метраў, вырабляюцца з вугляпластыку – матэрыялу, які з'яўляецца правадніком электрычнага току, таму падвышаная вільготнасць у межах вадаёма, мокрая лёска і вудзільна ствараюць небяспеку для жыцця нават пры набліжэнні да правадоў дзеючай лініі электраперадачы, а дотык да правадоў непазбежна прывядзе да смяротнай траўмы.

Няшчасныя выпадкі з рыбакамі адбываліся ў розных абласцях Рэспублікі Беларусь. Так, у 2012 годзе адбылося 6 няшчасных выпадкаў, з іх чатыры выпадкі са смяротным зыходам, у 2013 годзе адбылося 4 няшчасныя выпадкі, з іх тры – са смяротным зыходам.

У першым паўгоддзі 2014 года адбыўся адзін няшчасны выпадак. 16 траўня жыхар горада Гомеля, 1983 года нараджэння, перамяшчаючыся каля возера, размешчанага паблізу паветранай лініі электраперадачы напружаннем 10 кВ, наблізіўся раскладзеным вудзільнам да неізаляваных токаводных частак лініі і быў смяротна паражоны электрычным токам.

Усе выпадкі адбыліся ў ахоўнай зоне паветраных ліній электраперадачы паблізу правадоў, пры гэтым ігнараваліся ўстаноўленыя плакаты аб забароне рыбнай лоўлі вудай.

**Энерганагляд папярэджвае:**

■ знаходзячыся на рыбнай лоўлі, катэгарычна забараняецца лавіць рыбу на вадаёмах пад лініямі электраперадачы;

■ будзьце ўважлівыя пры перасоўваннях пад правадамі ліній, папярэдне складвайце вудзільна, каб пазбегнуць выпадковага дотыку да правадоў або набліжэння вудзільна на недапушчальна блізкую адлегласць (для ліній напружаннем 10 кВ яно складае менш за 0.6 м, для ліній 110 кВ - менш за 1 м) ;

■ выконвайце патрабаванні забараняльных плакатаў, устаноўленых у месцах пераходу паветраных ліній электраперадачы праз вадаёмы;

■ любыя дзеянні ў непасрэднай блізкасці ад электраўстановак могуць прывесці да трагічных наступстваў.



## Віншаванні

*Іну Сяргееўну Сядову*

**Віншуем з Днём нараджэння!**



В преданьи старом говорится:
Когда родился человек -
Звезда на небе загорится,
Чтобы светить ему навек.
Так пусть она и Вам сияет
По крайней мере лет до ста,
И счастье дом Ваш охраняет,
И радость будет в нём всегда.
Пусть будет в жизни всё прекрасно,
Без горя и невзгод,
Пусть будет всё светло и ясно
На много-много лет вперёд!

*Калектыў ВГ"*

## МНС інфармуе
**на 12.05.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 348;
Гібель людзей – 50, з іх 2 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 13;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;
Урон –289 млн. руб.

